# СІРЫЯ І АРАБСКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ

— Переварот у Сірыі ўяўляе сабою новы крок у напрамку аб'яднання арабаў на Блізкім Усходзе пад кіраўніцтвам прэзідэнта Насэра, — так заявіў адзін з заходніх карэспандэнтаў назаўтра пасля рэвалюцыі. І ён меў рацыю. Шматлікія факты сведчаць, што інспіратарам гэтых падзей з'яўляўся Каір. Так было і ў выпадку Йемена і Ірака.

Пераварот у Сірыі, таксама як і ў Іраку, быў вынікам дзейнасці т. зв. «Арабскай сацыялістычнай Партыі адраджэння», якую ўзначальвае староннік панаравізма Афляк. Хаця гэта партыя і называецца «сацыялістычнай», аднак з праўдзівым сацыялізмам яна нічога супольнага не мае. Асноўнай мэтай з'яўляецца тут узніманне арабскага нацыяналізму і яго пераўтварэнне ў шавінізм. Аб гэтым можам пераканацца на падставе месячнага кіраўніцтва ў Іраку «Арабскай сацыялістычнай Партыі адраджэння». Тут растаптаны асноўныя дэмакратычныя правы, а прагрэсіўныя дзеячы, асабліва камуністы, падвяргаюцца расстрэлам. Прыкладам такіх жудасных праследванняў з'яўляецца сама Арабская Аб'яднаная Рэспубліка, у якой мучацца ў самых цяжкіх турэмных умовах нават радавыя члены кампартыі. Гэта прывяло ўжо да смерці 5 тысяч камуністаў. Яны не вытрымалі ўсіх жахаў зняволення.

Зараз можам тое самае прадбачыць у Сірыі. Аб гэтым судзім на аснове складу новага ўраду, у якім большасць пасад займаюць члены гэтай «сацыялістычнай» партыі. Напрыклад, прэм'ерам і міністрам замежных спраў з'яўляецца адзін з яе заснавальнікаў Салях Бітар. Гэты палітык быў гарачым прыхільнікам уніі Сірыі з Егіптам яшчэ ў 1958 годзе. Насэр паклікаў яго нават на пасаду міністра ў супольным урадзе Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі. І хаця ў канцы 1959 года Бітар адмовіўся ад гэтай пасады, аднак неўзабаве вярнуўся да сваіх панафрыканскіх палітычных канцэпцый. Цяпер апынуўся ён ва ўлонні адзінства, нібы блудны сын.

Акрамя Бітара і некалькіх другіх міністраў з гэтай «сацыялістычнай» партыі, вылучаецца пранасэраўскай пазіцыяй генерал Атасі, які ўзначальвае сірыйскую армію. Гэты факт паказвае на сільныя ў ёй нацыяналістычныя настроі.

Аднак мы б аказаліся наіўнымі, калі б верылі ў нейкае адзінства арабаў. Гісторыя дае нам нямала прыкладаў, што адзінства, пабудаванае на рэлігійных і гістарычных вузах, доўга не трывае. Раней ці пазней у арабскім свеце павінна дайсці да канфліктаў паміж нацыянальнымі групамі развіваючайся буржуазіі. Сумняваемся, ці ў будучыні іракская ці сірыйская буржуазія захацела б падпарадкавацца больш шматлікай і сільнейшай егіпецкай буржуазіі.

Пакуль што ва ўсім арабскім свеце дамінуюць тэндэнцыі да адзінства, якія абапіраюцца на прыпамінанні колішняй магутнасці дзяржавы мусульманскіх арабаў. Калі б мы хацелі ў гэтых намаганнях знайсці нейкую станоўчую рысу, дык ёю з'яўляецца хіба толькі наступленне супроць феадалізма. Пасля перавароту ў Сірыі можна меркаваць, што лічанымі застаюцца гадзіны панавання двух апошніх каралёў, звязаных з заходнім імперыялізмам — у Іарданіі і Саўдаўскай Аравіі. Сумняваемся, каб штыкі і долары англасаксаў за нафту памаглі ператрываць гэтым феадалам.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ



Сёлета спаўняецца 70 год ад дня нараджэння (19 лютага 1893 г.) і 24 гады ад дня смерці (20 сакавіка 1939 г.) М. Гарэцкага, выдатнага беларускага пісьменніка, гісторыка беларускай літаратуры, крытыка, педагога, публіцыста.

Пісьменнік пакінуў у спадчыне нашчадкам у прыгожай літаратурнай форме залаты фонд сваіх думак і разваг, праблем і ідэй, сёння яшчэ жыццёвых і актуальных...

Мы, на жаль, не ўсё яшчэ ведаем, што ўваходзіць у літаратурную і навуковую спадчыну пісьменніка. Толькі нядаўна стала вядома, што ў рукапісным фондзе Бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР знаходзіцца рукапіс значнага твору М. Гарэцкага — «Віленскія камунары». Твор падпісаны псеўданімам «Мацей Мышка». Стала таксама нядаўна вядома, што радня Гарэцкага мае ў сябе рукапіс таго ж самага твору, але на рускай мове пад зменeным загалоўкам «Виленские воспоминания», падпісанага таксама Мацей Мышка. Апрача таго, радня мае велізарны том рукапісаў — матэрыялаў для новага капітальнага твору «Камароўская хроніка», падпісанага таксама Мацей Мышка. А як цвердзіць беларускі пісьменнік Нічыпар Чарнушэвіч, які разам з Гарэцкім адбываў ссылку ў г. Вятцы, Гарэцкі меў напісаны твор на гістарычную тэму, не звязаную з Беларуссю...

Паводле спісаў твораў, уложаных самым пісьменнікам, выглядае, што пісьменнік напісаў звыш 70-ці пазіцый, у гэтым некалькі дзесяткаў апавяданняў, некалькі аповесцей, знамянітую «Гісторыю беларускай літаратуры», «Хрэстаматыю беларускай літаратуры», выпісы з беларускай літаратуры і іншыя навуковыя працы, дзесяткі і сотні публіцыстычных артыкулаў.

Літаратурная і навуковая спадчына М. Гарэцкага, на жаль, дагэтуль належным чынам не вывучана. У сваім часе на асобныя літаратурныя творы, калі яны паяўляліся ў друку, былі пісаныя і друкаваныя рэцэнзіі, крытычныя артыкулы. Усё гэта параскідана па газетах, часопісах і сёння ўсё гэта — бібліяграфічная рэдкасць, так як і самыя творы пісьменніка.

Творы пісьменніка, розныя па жанру, арыгінальныя па сваёй літаратурнай форме і стылю, дыхаюць жыццёвай праўдай, шчырасцю і народнасцю. Ужо першы, самы ранні зборнік апавяданняў пісьменніка, выдадзены ў Вільні ў 1914 годзе, паказвае, што ў асобе Максіма Гарэцкага прышоў у беларускую літаратуру арыгінальны, таленавіты пісьменнік.

Асноўнымі пытаннямі і заданнямі беларускай літаратуры ў дакастрычніцкім перыядзе былі: сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларускага народа ад прыгнёту памешчыкаў і капіталістаў, ад самадзяржаўнага рэжыму рускіх цароў; замацаванне і развіццё ў беларускім народзе нацыянальнай самасвядомасці, і разам з гэтым пачуцця нацыянальнай і сацыяльна - класавай годнасці.

Беларускія пісьменнікі-патрыёты таго перыяду ў сваіх творах выконвалі свае высакародныя заданні. Рабіў гэта і Максім Гарэцкі. Пісьмен-

**(Працяг на стар. 4)**

# Хроніка БГКТ

■ 6 сакавіка адбылося пасяджэнне Гайнаўскага аддзела БГКТ супольна з актывам гарадскога гуртка. Абмяркоўваліся справы, звязаныя са справаздачна-выбарчай канферэнцыяй аддзела: вызначана дата канферэнцыі на 21 красавіка, выбрана камісія да апрацавання дакладу, пастаноўлена правесці справаздачна - выбарчыя сходы ва ўсіх гуртках, на якіх выбраны дэлегаты на канферэнцыю.

■ 10 сакавіка Гайнаўскім аддзелам БГКТ была склікана нарада кіраўнікоў мастацкіх гурткоў, на якой галоўнай тэмай была падрыхтоўка да павятовага агляду гурткоў самадзейнасці БГКТ.

Да павятовага агляду мастацкай самадзейнасці БГКТ рыхтуецца на Гайнаўшчыне 7 мастацкіх калектываў.

■ 10 сакавіка адбыўся ў Мілейчыцах павятовы агляд мастацкай самадзейнасці БГКТ Сямяціцкага павета. У аглядзе ўзялі ўдзел самадзейнікі з Семіхоч, Рагачоў, Вычулак і Вулькі Нурэцкай. Першае месца заняў гурток БГКТ з Семіхоч, які выступіў з камедыяй «Міхалка».

■ Нядаўна адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ у Войшках. На сходзе прынята 8 асоб у члены БГКТ.

■ На справаздачна - выбарчым сходзе гуртка БГКТ у Дзяніскаx усе члены аплацілі складчыны за 1963 год.

■ Гурток БГКТ у Кнаразах падрыхтаваў п'есу «Мікітаў лапаць» і выступаў з ёю ў сваёй і суседніх вёсках.

■ Самадзейнікі гуртка БГКТ у Леўках выступалі на сцэне сваёй школы з пастаноўкай «Хто прыйшоў ноччу».

■ Нядаўна пасля справаздачна - выбарчага схода гуртка БГКТ у Рыбалах адбылася вельмі ўданая вечарына.

■ Самадзейнікі гуртка БГКТ з Плёсак выязджалі нядаўна ў Беластоцкі павет у вёску Дарожкі з п'есай «Мікітаў лапаць».

■ Гурток БГКТ у Локніцы выступаў нядаўна на школьнай сцэне сваёй вёскі з пастаноўкамі «Пінская шляхта» і «Як я быў лекарам».

# Спорт

У мінулым тыдні ўвагу спартыўнай грамадскасці прыкаваў сусветны чэмпіянат па хакею ў Швецыі. Ім зоймемся за тыдзень, цяпер адзначым толькі, што першыя гульні прайшлі без неспадзянак. Затым традыцыйны мемарыял Браніслава Чэха ў Закапаным. Тут асаблівай увагі заслугоўваюць скачкі з трампліна. Маладыя правялі ўдачную атаку на пазіцыі старэйшых. Польскі юніёр Юзэф Пшыбыла пасля заўзятай барацьбы ўступіў першынства толькі алімпійскаму чэмпіёну Рэкнагелю (ГДР).

У мінулую нядзелю закончыўся чэмпіянат краіны па баскетболу. Чэмпіёнам краіны стала варшаўская Легія. Другое месца заняў уроцлаўскі Слёнск.

Варта адзначыць таксама акруговы чэмпіянат па боксу беластоцкіх юніёраў. На жаль, новых талентаў на ім не выявілася. Выйгралі фаварыты.

І ўрэшце, вышэйшае дасягненне СССР для раўнінных каткоў установіў мінскі скараход Элуард Матусевіч. На ўсесаюзным першынстве таварыства «Дынама» ў Свярдлоўску ён набраў у суме мнагаборства 185,463 ачка. Дарэчы, адзначым, што Эдуард Матусевіч на адбыўшымся нядаўна чэмпіянаце свету ў Японіі заняў 13 месца (быў другі з пяці савецкіх скараходаў), набраўшы 183,743 ачка.

Гэта тыпова зімнія дысцыпліны. А што чуваць у летніх? Адбыўся чвэрцьфінал на кубок краіны па футболу. Выйгралі сілезскія каманды, і далейшы лёс кубка з'яўляецца цяпер сямейнай справай сілезцаў.

Хутка пачнецца футбольны чэмпіянат. Да яго ўзмоцненымі тэмпамі рыхтуюцца ўсе нашы каманды. У СССР пачнецца ён пазней, але і там ужо наступае футбольная ліхаманка. Першы і другі эшалоны згрупаваны на поўдні. Ідуць кантрольныя гульні. У іх мінскае «Дынама» выйграла 1:0 з маскоўскім ЦСКА. Навічок «А» класа гомельскі «Лакаматыў» першыя кантрольныя сустрэчы правёў таксама ўдачна.

**Аут**




**ХТО ПРЫБЫЎ У ОСТБУРГ**

У адзінаццаць гадзін дня лабараторыя, якая праводзіла па заданні абверштэле аналіз знойдзеных у лесе парашутаў, дала заключэнне: шоўк савецкага вырабу.

У сярэдзіне дня аператыўныя групы абвера закончылі даследванне раёна, дзе былі знойдзены парашуты. Пошукі вынікаў не далі. У ліку дапытаных быў патрульны, які затрымаў Ланге і Аскера каля вакзала. Аб сваёй начной сустрэчы салдат нічога не сказаў, баючыся, што яму нагарыць. Аднак пасля ён па сакрэту расказаў аб усім свайму сябру. Той аказаўся асведаміцелем армейскай контрразведкі і неадкладна данёс абверафіцэру, у якога быў на сувязі.

Патрульнага арыштавалі. Ён выявіў: адзін з сустрэтых ноччу вайсковых гаварыў аб зенітнай ба-

73

тарэі на ўскраіне лесу, сцвярджаючы, што ідзе адтуль.

Неадкладна дапыталі камандзіра батарэі. Ён заявіў, што ў гэтым часе ні адзін салдат ці афіцэр не пакідалі агнявой пазіцыі.

Устанавіўшы ўсё гэта, шэф абвера штандартэнфюрэр Больм выклікаў памочніка, штурмбанфюрэра Бруна Бекера.

— Ну, дакладвайце, — сказаў Больм.

— Вы маеце на ўвазе справу з парашутамі?

— Так, Бекер, што ж іншае? Парашутаў было тры. Шукаць трэба траіх?

— Адзін ці два парашуты маглі быць грузавымі.

— Рацыя. Вось і патрульны сказаў: ноччу з лесу выйшлі двое. Аднак ніхто не паручыцца, што не прыляцелі трое. Шукаць траіх, Бекер!

Штурмбанфюрэр нахіліў галаву ў знак таго, што згодны з шэфам. Аднак у рэчаіснасці ён прытрымліваўся іншай думкі. Прызямліцца ноччу ў незнаёмым лесе і ноччу ж ісці на станцыю — гэта было надта рызыкоўна, наўрад ці пайшлі б на такую рызыку варожыя разведчыкі.

— Усё гэта добра, — сказаў ён, — калі толькі тыя салдаты сапраўды былі парашутысты... Яны схлусілі, сказаўшы, што ідуць з батарэі. Але ці гэта доказ? Ці ж іншыя салдаты, на іх месцы, не рабілі б таксама. Іх адказ мог быць падыктаваны імкненнем адвязацца ад доўгай праверкі і не спазніцца на поезд. Я навёў даведку: у той дзень з навакольных часцей звольнена ў водпуск звыш дзесятка людзей... Зразумела, салдат, якія прыбылі ў

74

Остбург учора і сёння, мы праверым. І я сказаў аб сваіх сумненнях толькі таму, каб мы не абмежаваліся пошукамі гэтых двух...

— Так, — сказаў Больм. — Аднак пры ўсіх абставінах гэта не тыя, каго мы чакаем...

— Чаму?

— Таму што госці павінны быць з Карлслуста, а гэта ўсяго паўтараста кіламетраў, і ні адзін разумны чалавек не стане пакрываць такую адлегласць на самалёце.

— А калі яны проста з усходу? Што, калі адзін з іх той самы?..

— Георг Хоман?

— Так!

— Гэта было б надта вялікай удачай!

— Але чаму яна не мела б быць? Успомніце, што нам каштавала гэта аперацыя!..

— Труд быў велізарны, — уздыхнуў Больм.

— І калі адзін з іх перабежчык Хоман, то ім не абмінуць «Зялёнага».

— Стоп! — Больм устаў. — Зараз жа звязацца з «Зялёным»!

— Усё ўжо зроблена, — усміхнуўся Бекер. — Сустрэча адбудзецца сёння.

Вярнуўшыся да сябе, Бекер выклікаў штурмфюрэра Адольфа Тропа і загадаў, каб ён заняўся парашутыстамі.

У абвер даставілі спісак асоб, якія прыбылі ў горад за апошнія двое сутак. Бекер і Троп праглядзелі іх без асаблівай цікавасці. У глыбіні душы яны не верылі, што тыя, кім яны цікавяцца, бу-

75

 

# Максім Гарэцкі

(Працяг са стар. 2)

нік - рэаліст у сваіх мастацкіх творах прадставіў жыццё і імкненні беларускага народа. Яго творы таго перыяду — гэта яркія і літаратурна - мастацкія дакументы, жывыя ілюстрацыі сацыяльнага і нацыянальнага цярпення беларусаў, жывыя, яркія карціны жыцця і быту народа.

Значны лік твораў напісаў пісьменнік у паслякастрычніцкім, савецкім перыядзе. Асаблівую цікавасць мы праяўляем да «Віленскіх камунараў», аповесці, напісанай на віленскім матэрыяле і закончанай у 1932 годзе у г. Вятцы.

Пісьменнік тут паставіў сабе за заданне адлюстраваць жыццё гарадскога насельніцтва ў класавых узаемаадносінах, а галоўнае, адлюстраваць палітычныя і рэвалюцыйныя імкненні рабочых, рамеснікаў і іншых нізавых слаёў гарадскога насельніцтва г. Вільні. Гэта азначае, што пісьменнік у тэматычных адносінах уступіў на новы шлях... Яго хвалявала і займала рэвалюцыйная тэма... У аповесці «Віленскія камунары» апісана жыццё віленскага пралетарыята, прадстаўлены рэвалюцыйны рух, барацьба віленскіх рабочых за звяржэнне самадзяржаўнай улады ў перыяд рэвалюцыі 1905 г., пазней і — самае галоўнае ў творы — барацьба ў 1918 г. за савецкую уладу.

У творы ярка і канкрэтна, на жыццёвым і гістарычна праўдзівым матэрыяле, выражана ідэя дружбы і супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей горада. У творы праўдзіва і точна паказаны палітычныя сілы, іх узаемаадносіны і барацьба. Моцныя ўражанні робяць на чытача тыя месцы, дзе аўтар апісвае цярпенне насельніцтва горада ад голаду і недаядання ў перыяд нямецкай акупацыі падчас першай сусветнай вайны. Амаральная, антынародная і антыграмадская палітыка грабежніцтва, рэквізіта, усякага роду здзекванні і паняверхі над насельніцтвам з боку кайзераўскай ваеншчыны знайшла ў творы яркае і моцнае асуджэнне.

Многія персанажы твору сапраўды жылі, працавалі, бралі ўдзел у грамадска - палітычным і культурным жыцці горада. Пісьменнік даў цэлую галерэю персанажаў, выпісаў іх эскізныя партрэты, характэрныя рысы, іх ідэйны воблік і светапогляды. Надзвычай цікавыя ў творы карціны, у якіх прадстаўлена рэвалюцыйная дзейнасць віленскіх камунараў, карціны, у якіх адлюстравана барацьба за савецкую ўладу ў Літве ў пераломныя 1918—1919 гады.

ІВАН ШУТОВІЧ

# Аб папяросным дыме

У кнігарні нядаўна з'явілася брашурка «Ці і як адзвычаіцца ад курэння». З гэтай брашуркі даведаемся, што ў Польшчы выкурываецца штогод каля 47 мільярдаў папярос на суму 7 мільярдаў злотых. Значыць, 7 мільярдаў злотых ідзе ў нас з дымам, затруваючы здароўе нам і нашым бліжнім. Гэта афіцыяльныя статыстычныя даныя. А колькі яшчэ людзей у нас курыць самасейку!

Аб шкодзе курэння пішацца ў апошні час вельмі многа, але мяне цікавіць справа шкоднасці курэння для некурачых. Некаторыя можа ўсміхнуцца на такую пастаноўку пытання: як гэта можа курэнне шкодзіць некурачым? Вось пра гэта і хачу сказаць. У гарадах існуюць нейкія нормы таварыскага сужыцця. Напр. курачы не закурыць у чужым памяшканні, не атрымаўшы на гэта дазволу гаспадара. У дзяржаўных установах вывешваюцца вывескі «курыць забараняецца», а ў цягніках ёсць вагоны для некурачых.

На вёсцы нічога гэтага няма. І нават каб каму шкодзіў папяросны дым, ён не вывесіць у сябе ў хаце «курыць забаронена». Суседзі засмяюць. І вось на вёсках у нас прынята так. Прыходзіць добры сусед за патрэбаю ці так пасядзець, пагутарыць і ў першую чаргу дастае папяросу і спрабуе частаваць некурачага гаспадара. Гаспадар з-за далікатнасці не забараняе курыць у сваёй хаце.

Гэты сусед пасядзіць у хаце гадзіну — дзве, скурыць каля дзесятка папярос і адыходзіць, прасячы прабачэння, што даўжэй пасядзець не можа.

Хаты на вёсцы пераважна нізкія і сырыя, бо не заўсёды ёсць адпаведнае паліва. Не ветрацца, бо холадна. Пасля такога візіта і дзеці, непрызвычаеныя да дыму, скардзяцца на боль галавы, і з гаспадыні часам вырве ўсё «ад дзесятага дня», ды і гаспадару гэты дым не надта ў смак.

Дзіўна выглядае той факт, што сёння, калі на вёсцы цяжка знайсці сям'ю, якая б не выпісвала адзін або два часопісы, калі большасць вёсак радыёфікавана і электрыфікавана, калі лампавы радыёпрыёмнік з'яўляецца на вёсцы чымсьці неабходным — культура штодзённага жыцця вельмі павольна ўваходзіць у вясковы быт.

Што курэнне шкоднае, цяпер гэта ўжо бясспорны факт. І гэта ўсе добра ведаюць. І калі каму цяжка адзвычаіцца ад гэтага згубнага налогу, хай першым яго крокам у барацьбе з курэннем будзе пашанаванне здароўя сваіх сяброў і бліжніх.

К. Пэтэльскі
Крушыняны

# ДЗВЕ СУСЕДСКІЯ МОВЫ

(Працяг са стар. 1)

спрошчвае справы. Ці часам не рызыкоўным і выклікаючым разгубленасць у чытача, які ўпершыню сутыкаецца з беларускай мовай, будзе наступны пераклад загаловачнага слова — «belfer» — «настаўнік». Калі чытач даведаецца, што польскаму слову «nauczyciel» адпавядае таксама «настаўнік», дык узнікне ў яго няўпэўненасць. Трэба было б падшукаць у беларускай мове адпаведнае з сэнсавай нагрузкай слова. Здаецца, у Беларусі называюць настаўніцу з пэўным, зразумела, адценнем зняважлівасці «учылкай». У беларускіх дзяцей ў Польшчы няма ніякага беларускага адпаведніка слова «belfer».

У «Падручным польска-беларускім слоўніку» знойдзем неабходныя граматычныя ўказанні. Тут, як правіла, назоўнікі даюцца ў назоўным і родным склонах адзіночнага ліку. Гэта вельмі добра, таму што ў выпадку назоўнікаў мужчынскага роду канчатак роднага склону адзіночнага ліку бывае на -у і -а. Дзеясловы маюць тут формы з канчаткам першай і другой асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу. Ды ў слоўніку шмат другіх граматычных указанняў, даючых магчымасць чытачу спазнаць па меры магчымасці хаця б некаторыя «небяспечныя» месцы беларускага правапісу і вымаўлення. У апошнім выпадку добрую паслугу робіць расстаноўка акцэнтаў над націскнымі галоснымі. Зразумела, што ў словах з літарай -ё- націску не знойдзем, таму што гэтая літара заўсёды паказвае месца націску.

У слоўнік уключаны дадатак, ахопліваючы сабою важнейшыя геаграфічныя назвы. Аднак яго вартасць зніжае ўстарэлы час ад часу выступаючы тут правапіс. Як вядома, у 1957 годзе ў Беларускай ССР была прынята спецыяльная пастанова «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу». Такім чынам страціў сваю вартасць у паасобных выпадках апублікаваны ў 1934 годзе «Правапіс беларускай мовы». У слоўніку гэтыя змены не ўлічваюцца. Тут амаль усюды пададзены назвы згодна са старым зводам правіл, напрыклад, Іянічнае мора, Рыо-дэ-Жанейро, Владзівасток і г.д. Заглянем тады ў «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», выданыя ў Мінску ў 1959 годзе. У іх, у першай частцы, адносна правапісу галосных знаходзім наступнае паясненне (стар. 24—25): «Калі злучэнні «іо», «йо» вымаўляюцца (у беларускай мове) як два склады, тады яны на пісьме абазначаюцца: ...У пачатку слова — літарамі «іо» пад націскам і «іа» не пад націскам, напрыклад; іон, іонны, іог, Іосіф; Іанічнае мора, іанійцы, іанізацыя, Іакагама...» Нас павінна таксама зацікавіць справа галоснага «о» у ненаціскных складах. Як указвае новае правіла (стар. 19), гук «о» м. інш. у ненаціскных складах на канцы нязменных слоў передаецца праз «а», напрыклад, Чыкага, Конга, ну і паслядоўна Рыо-дэ-Жанейра. У чытача неўразуменне выкліча выступаючая ў слоўніку назва горада «Частахоў». Павінна ж быць «Ченстахоў». Памылкова таксама выступае назва — Федэратыўная Рэспубліка Германія». Правільнае напісанне будзе наступнае: Федэратыўная Рэспубліка Германіі. У іншым месцы (стар. 40) «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» адносна «у» складовага і «ў» нескладовага чытаем: «У імёнах уласных, у якіх у беларускім вымаўленні пачаткова «у» развілося з «в», пішацца ў пачатку «у»: ...Уладзівасток, Уладзікаўказ і Уладзімірскі.»

На пачатку слоўніка маем укладку з папраўкамі заўважаных у ім памылак. Гэта толькі нязначная доля наогул часта выступаючых у выданні спатыкненняў. Ды і ў самай укладцы ёсць непаладкі, калі, напрыклад, слова «зацвярдзенне» «папраўлена» на «зацьвярдзенне».

Прыгаданыя памылкі патрабуюць, зразумела, пэўнай асцярожнасці пры карыстанні слоўнікам, асабліва ў выпадку геаграфічных назваў. Тут трэба проста самому ўвесці папраўкі згодна з указаннямі новага правапісу.

Звярну яшчэ ўвагу на змешчаныя ў слоўніку дзве карты — Беларускай ССР і Польшчы, а таксама на наяўнасць тут цэлага рада ўказанняў ва ўступнай частцы выдання як карыстацца слоўнікам і што ён у сябе заключае. Эстэтычная вокладка і невялікі фармат выдання робяць яго прыемным, а, нягледзячы на паасобныя непаладкі, слоўнік у цэлым каштоўная і патрэбная рэч.

М. КАНАПАЦКІ

# НАВАЛА

(Працяг са стар. 3)

чатай сцяною бору. Свежы ветрык пацягнуў з усходу і данёс да вуха крэпасной стражы далёкі незвычайны шум. Ён плыў і нарастаў, хвілінамі здавалася, што гамоніць і рагоча бор. Дружыннікі губляліся ў здагадках. Але вось бліснулі першыя праменні сонца. Вецер заціх. У раптоўна наплыўшым тумане стражы разрознілі іржанне незлічонай цьмы коней. Яны затараскацелі трашчоткамі...

Уся крэпасць кінулася на сцены. Людзі спрабавалі разглядзець у слепячых зрок сонечных праменнях ворага. Яны ўбачылі нейкую дзіўную раскалыханую масу, выплываючую з лесу і затапляючую наваколле. Раптам маса грымнула дзікім жахлівым рэхам, разарвалася на імклівыя кавалкі і хлынула пад сцены крэпасці.

Са сцен пасыпалася каменне і пакаціліся бярвенні, хлюснула палаючая смала... Наезнікі ўжо ўварваліся на сцены... Мешкавата асоўваюцца абезгалоўленыя целы дружыннікаў і абаронцаў крэпасці. З прадсмертным, яшчэ не застыўшым у вуснах храпам, сыплюцца галовы мужчын, жанчын і дзяцей у агідную валасатую горбу. У шалёным рэве і лязгаце валасатая гара расце з хвіліны на хвіліну і сваёй вяршыняй дасягнула ўжо страхі дома князеўскага пасадніка. Раптам рэў і лязгат перайшоў у хрыплівы крык:

— Да брамы!..

Усе, хто з драгічынцаў быў жывы, кінуліся да брамы, нясучы ў сэрцы надзею на тое, што наезнікі выпусцяць іх з патанаўшай у крыві і полымі крэпасці. Натоўп нарастаў, але брама была зачыненай.

— На калені! Тварам на зямлю! — загарланілі татары, замахваючыся крывымі шаблямі на людзей. Натоўп пакорліва асунуўся на зямлю, упаў нічком у пыл і попел, закрыўшы далонямі вочы.

Палавінкі брамы расхіліліся. На ляжачых людзей пырснулі праменні ранішняга сонца, і ўехаў конны караван татарскага хана. На буланым кані, аздобленым ззяючай ад золата і дарагіх каменняў збруяй, пад шаўковым шатром, што няслі на коп'ях прыслужнікі, ехаў Батый. За ім на конях паволі пасоўвалася значная грамада ваеначальнікаў хана. Пад капытамі хрусцелі косці паваленых нічком драгічынцаў...

Татарская арда раўла пераможным рэвам.

Батый пад'ехаў да гары з галоў, зірнуў на яе і павярнуў каня назад.

Праз хвіліну ён ужо стаяў на каленях на залататканым дыване, разасланым на пясчаным беразе Буга. Павярнуўшы твар да ўзышоўшага ласкавага ліпеньскага сонца, узняў рукі і схіліўся ў пакорлівым паклоне. Вусны яго горача шапталі:

— Дзякую табе, вялікі Алах, што дазволіў мне прыдбаць для твайго нязмеранага царства і гэтую лапіну зямлі паганых гяураў!.

МІКОЛА ГАЙДУК

(Працяг са стар. 3)

парушнага, бледнага, у брудным парваным мундзіры.

Людзі праціснуліся ў калідор.

— Куды яго? — спытаў адзін з мужчын.

Па тым, як было зададзена пытанне, Аскер зразумеў, што Ланге мёртвы.

Адыходзячы задам, Аскер адступіў да дзвярэй у спальню, прываліўся да іх спіной.

Цела ўнеслі ў кухню. Аскер бачыў, як яго ўладжвалі на ссунутых разам табурэтках, як адна з рук Ланге, складзеных на грудзях, раптам каўзанула ўніз і ўдарылася кісцю аб падлогу...

У кухні няголасна гутарылі. У калідор данесліся абрыўкі фраз: «Бег, бы апантаны, праз вуліцу... З-за вугла грузавік...»

За спіной Аскера, у спальні, скрыпнуў ложак, пачуўся шорах.

Аскер здушыў крык. Ён зразумеў: смерць Ланге — гэта амаль немінучая катастрофа для яго, разведчыка. Памёр Ланге — значыць, з мінуты на мінуту з'явіцца паліцыя і супрацоўнікі ваеннай камендатуры. А зараз у калідор увойдзе Лізель і ўбачыць, што здарылася з яе мужам!

За дзвярыма спальні пачуліся няцвёрдыя крокі. Аскер адскочыў убок, павярнуўся. Убачыў: ручка дзвярэй памалу паварочваецца.

Ён кінуўся да вешалкі, сарваў з яе пілотку і шынель і выскачыў прэч з хаты.

(Працяг за тыдзень)

79

# Б Е Л Ь С К



фота Г. Рагазінскі



 

# НАЧНЫЯ БЛЯСКІ

Цэнтральны таварны дом (папулярны ЦДТ) у Варшаве пры Алеях Ерусалімскіх.

# МАНУМЕНТ СВАБОДЫ

**На Савецкай плошчы ў Маскве неўзабаве будзе ўстаноўлены Манумент Свабоды, які быў разабраны ў час культу асобы. Вось архіўны здымак Манументу з 1934 г.**



## Усё аб чаі

Радзіма чаю — Усход. Сама назва паходзіць ад кітайскага слова «Ча», што азначае напітак. У лясах Тыбецкага нагор'я, у Бірме, Сіяме, Танкіне, Аннаме растуць дзікія чайныя дрэвы да 15—18 метраў.

Адсюль і пачаў чай сваё вялікае падарожжа. Пачаткова папаў ён у Кітай, у Індыю. Пасля ў Расію, пазней рознымі шляхамі ў Еўропу і нарэшце перасёк акіян і прыжыўся на новым кантыненце. У Расіі першае чаяпіцце адбылося ў 1638 годзе, а ў Германіі ў 1658 годзе. Чай здаровы для арганізму чалавека. У яго ўваходзіць ад 2 да 3 працэнтаў кафеіна, рэчыва, якое танізуе і ўзбуджае дзейнасць сэрца і нервовай сістэмы.

Дубільныя рэчывы, якіх у чаі 12—16 працэнтаў, умацоўваюць сценкі крываносных сасудаў. Чай мае ў сабе таксама вітамін С. Н—мх

## Навошта такі муж

Англійскі джазавы піяніст Джо Гендэрсон убяспечыў свае рукі на 10 тысяч фунтаў штэрлінгаў. У сувязі з гэтым кампанія, якая прыняла ўбеспячэнне, спісала спецыяльную ўмову — чаго нельга піяністу рабіць. Нельга: падаваць рукі асобе, якая важыць больш 95 кілаграмаў, падпісваць больш 200 аўтографаў у дзень, ставаць на руках, памагаць жонцы мыць талеркі, чысціць падлогу. Апошнія 2 пункты моцна не спадабаліся жонцы піяніста. Яна намерана выступіць у суд з просьбай аб разводзе. (вп)

## Прысмак з паперы

Адзін іспанскі ўласнік рэстарана выругаў свайго кухара, што замнога грошай выдае на прыправы. Кухар адказаў, што іменна прыправы і найважнейшыя. Смачную ежу ён можа зрабіць хоць бы з паперы для ўпакоўкі, абы былі прыправы. Залажыліся. Спрошана гасцей, і кухар падаў на стол пахучую, румяную смажаніну, прыбраную шпарагамі. Усе ў адзін голас сказалі, што яшчэ ніколі не елі так смачнай цяляціны. Ніхто не хацеў паверыць, з чаго была зроблена смажаніна. Кухар вымушан быў паўтарыць сваю ўмеласць на вачах усіх. (вп)

## Нарадзілася п'яным

У канадскім шпіталі нарадзілася дзіця з прыкнакамі затруцця алкаголем. Лекары пачалі распытваць маці. Яна ўрэшце прызналася, што перад ад'ездам у шпіталь, каб дадаць сабе смеласці і адвагі выпіла бутэльку гарэлкі. (вп)

## Ці ўмееце вы... правільна прышыць гузік?

Каб прышыць гузік, не трэба яго моцна падцягваць да тканіны, а трэба пакідаць нітку крыху свабоднай. Утвораную такім чынам «сцяблінку» абматаць некалькі разоў ніткай. Гэта робіцца для таго, каб пятля абхватвала гузік свабодна, не сцягвалася. Прычым «сцяблінка» павінна быць даўжэй у больш шчытнай тканіны і карацей у лёгкай. Гузікі да шоўку можна прышываць і без «сцяблінкі», не вельмі моцна нацягваючы нітку. Прышываючы гузікі да верхняга адзення, трэба з боку падкладкі падкласці маленькі гузік або кавалак тканіны для моцнасці.



Так выглядалі веласіпеды нашых прадзедаў. Цяпер гэта толькі музейныя экспанаты.

# Аварыя на дне акіяна

Перуанскае агенства АЦ перадае, што не так даўно, усяго некалькі год таму назад, на вялікай глыбіні ў акіяне адбылася аварыя, якая пацягнула за сабой значныя непрыемнасці для народаў цэлых дзвюх паўднёваамерыканскіх дзяржаў.

Усё пачалося з таго, што аднойчы была перарвана тэлеграфная сувязь паміж Перу і Эквадорам. Прычынай з'явілася пашкоджанне кабелю, пракладзенага на вялікай глыбіні па дне акіяна.

На месца аварыі было выслана спецыяльнае рамонтнае кабельнае судна, якое спусціла на дно каманду вадалазаў. Тыя, на глыбіні 1.100 метраў знайшлі пашкоджанне. Аказалася, што ў некалькіх месцах на кабелі была сарвана ізаляцыя. Тут жа непадалёку знаходзіўся і сам зламыснік. Ён быў мёртвы і паспеў ужо на палавіну згніць. Таму не было ніякай магчымасці падняць яго на паверхню. Прыйшлося абмежавацца адной толькі ніжняй сківіцай.

Зламыснікам аказаўся кашалот, які нейкім чынам заблытаўся ў кабелі і сваімі магутнымі зубамі пашкодзіў ізаляцыю.

Гэтае паведамленне выклікала цэлую буру ў вучоным свеце. Дагэтуль ніхто з біёлагаў не дапускаў нават думкі, што кіты пры іх велізарным аб'ёме, могуць спускацца на такую глыбіню, дзе ціск вады дасягае больш ста атмасфер.

Тым не менш, факт застаўся фактам і яго неяк трэба было вытлумачыць. Большасць вучоных схільна думаць, што кашалот даваў нырца ў пошуках харчу і выпадкова натрапіў на злашчасны кабель, які і стаў яго ахвярай

# Карціна эпохі спутнікаў?

**Пустыня Негеў у Ізраілі. Тут у пошуках зямлі аселі людзі. Не маюць плугоў ці нават сошак, каб араць убогую зямлю. Ужываюць для гэтага завостраны драўляны кол, які цягне вярблюд.** вл



## КАРЫСНАЯ БЮРАКРАТЫЯ

У Японіі распачалі вострую барацьбу з дарожнымі катастрофамі. Пры кожным нават самым дробным парушэнні дарожных правіл паліцыя піша мандат. Вінаваты на другі дзень павінен пехатою прыйсці ў камісарыят, які знаходзіцца далёка на акраіне горада і там заплаціць кару. Сума плацінца невысокая, але працэдура аплаты займае некалькі гадзін. У выніку шафёр траціць цэлы дзень. Гора таму, хто не заплаціць мандату на другі дзень. На трэці дзень ён адразу траціць правы язды. А без такога кіраванне самаходам караецца турмой. Трэба сказаць, японскія шафёры ездзяць вельмі асцярожна. (вп)

